Калі мы беларусы блізка нясходзіліся з нашымі суседзямі Расеяй і Польшчай — мы мелі сваю магутную дзержаву, на працягу якой ад Буга, Нарэва і да Дняпра панавала вольнасьць, здольнасьць і поўны дастатак. Ня было ў нас тагды ні паноў, ні хамаў, а быў толькі адзін вольны беларускі народ.

Нашаму багатству, нашым парадкам і нашым вольным беларускім законам, напісаным на нашай пекнай беларускай мове, зайздросьціла шмат іншых народаў. Зайздрасьць гэтая асабліва моцна ахапіла Польшчу, якая у той час была давeдзяна шляхтай да страшэннага заняпаду.

Каб паправіць свае справы на рахунак багатае у той час Беларусі, польскія паны сталі шукаць рожных спосабаў, каб сайціся бліжэй з Беларусьсю. Дзеля гэтага, Польшча прыкінулася вялікім прыяцелям Беларусі, пачала прапанаваць уселякія саюзы і дагаворы, якіх яна ніколі не выпаўняла. Усе умовы палякамі былі нарушаны, яны абярнулі іх у адно ашуканство, у адно злачынство. Так яны рабілі раней, так яны робяць і цяпер. Адгэтуль і вышла тая пагаворка „фальшывы як польскі гонар

Высмактаўшы к таму часу ўсе сокі і кроў са свайго польскага селянства, польскія паны, са сваімі прыяцелямі польскімі ксяндзамі (якія не маюць нічога супольнага з беларускімі ксяндзамі) сталі адзін за другім пераселяцца на Беларусь.

Яны зараз-жа сталі захапляць у нас вялікія абшары зямлі і завадзіць у нас паншчыну (крэпастное права) ад якой мы к нашаму сораму і жалю ня можам аслабаніцца да гэтай пары.

Умацаваўшы, пры помачы ксяндзоў, сваё палажэньне, цяперака гэтыя прышэльцы і прахадзімцы нават пазваляюць сабе гаварыць. што Беларусь, а асабліва Віленская і Горадзенская губэрнія, гэта Польшча,

Гэта няпраўда, тысячу разоў няпраўда! Селян палякоў, тамака ніколі ня было і німа, а былі і ёсьць толькі чыстыя беларусы, адна частка якіх праваслаўныя, а другая каталікі.

Калі лжэ і абдурывае народ польскі пан, то гэта яшчэ так сяк на тое ён і пан—але калі лжэ і абдурывае народ ксёндз — айцец духоўны, служыцель святога аўтара, гэта ўжо грэшна і брыдка за яго.

Гісторыя нашага старадаўняго жыцьця, асабліва засьцерагала і засьцерагаець нас ад нашага блізкага суседа—Польшчы. Яна нам гаворыць: — бойцеся і асьцерагайцеся панскай Польшчы, як толькі можаце, бо з яе боку ідзе адно ашуканства, адна здрада, адно зладзейство. Яшчэ ніхто, нікому ў сьвеце не зрабіў столькі бяды і крыўды, сколькі зрабіла Польшча Беларусі і беларускаму народу.

За ўвесь час нашага суседзкага і супольнага жыцьця, мы бачылі і бачым з боку Польшчы адно аблыганство, адзін зьдзек, адно катаваньне нашага народу, які пакуль не знаў польскіх паноў, жыў вольным гаспадаром на сваей зямлі, не знаючы ні бяды ні гаспадарскіх недастаткаў.

Паны і толькі польскія паны, прывязьлі з Польшчы і накінулі нашаму народу ярмо крэпастнога права. Яны і мучылі і зьдзекаваліся над намі да паншчыны, пры паншчыне і пасьля паншчыны. Адгэтуль і выйшла тая пагаворка: „нас б'юць і плакаць не даюць“ альбо „паны б'юцца, а ў хлопцаў чубы трашчаць“. Бо калі пан нічога ня мог зрабіць пану, тагды ён сваю злосьць вымешчаў на нявінных селянах свайго ворага.

Паны, з рожнымі сваімі падпанкамі, нас мянялі, прадавалі, катавалі і забівалі. Для іх мы былі працоўным быдлам і толькі. Кожнаму з нас ведама, што яны куды больш шкадавалі і лепш абходзіліся са сваімі сабакамі, чым з намі.

Прыпомніце толькі, каго з нашых дзядоў і бацькоў ня сек панскі бізун і панская розга, хто з нас не плакаў ад панскай ласкі...

Мы, беларусы, будучы людзьмі нямсьцівымі забылі старыя, цяжкія і горкія крыўды і гатовы былі нават прабачыць іх — гаворучы пры гэтым —што так не па людзку і не па Божаму пступала старая Польшча, цяпер-жа гэтага ня можа быць. Сам польскі народ не пазволіць гэтакага зьдзеку. К вялікаму жалю і на гэты раз мы горка абмыліліся.

Былая Польшча дзякуючы бэзупыннаму, дзікаму разгулу разкелзанае шляхты дайшла да такой беднаты, занепадку і анархіі, што далей самастойна істнаваць ужо не магла, цераз гэта была падзелена паміж Аўстрыей, Германіей і Расеяй.

Будучы доўгі час пад чужым уціскам, можна было спадзевацца, што Польшча, а асабліва яе шляхта, чаму кольвячы навучылася.

Аслабаніўшыся з пад чужацкага гнёту, прымецца спакойна, разумна будаваць сваю ўласную дзяржаву і ніколі не пазволіць сабе захапляць чужое і зьздекавацца над другімі суседнімі народамі.

У гэтым напрамку усе жадалі ей найлепшага пасьпеху.

Так думалі не адны мы беларусы, а так думалі ўсе. На вялікі жаль усе абмыліліся. Выходзіць, што нават лёс цяжкае гісторыі нічому не наўчыў палякоў. Яны засталіся такімі безталковымі, якімі былі раней.

Яшчэ у 13 веку манах Лігурынус у сваім вершы так ахарактэрызаваў палякоў: „Палякі народ з нецярпеньнем нясучы закон, заўсёды маюць гатоўнасьць да самай запальчывай сваркі і разбою, вельмі неспакойны, непастаянны, ашуканчы, каторы ня ўмее слухацца сваіх ўласьцелінаў, ня ўмее любіць і свайго бліжняга“.

З тае пары, прайшло ўжо сем вякоў і нягледзючы на гэта, даная манахам Лігурынусам характэрыстыка палякоў застаецца такою-ж справядлівою і ў 20 веку, якой яна была ў 13 веку. Да

гэтае пары — ў наш век — паляк застаўся такім-жа аблыганцам і задзірай, якім ён быў раней. Гдзе бы не паказаўся паляк са сваім хворым гонарам там ні пакою ні ладу ня будзе.

Паглядзеце толькі, што яны вытвараюць цяпер. У іх самых у Польшчы, страшэнны непарадак і разруха, бедны народ мрэ ад голаду і холаду, а вяльможныя паны, замест таго, каб спакойна сядзець у сваей ўласнай дзержаве — Польшчы, і папраўляць жыцьцё свайго народу, утрымліваюць мільённую армію і лезуць заваёўваць чужыя землі і гэтакім чынам, яны думаюць выратаваць свае маёнткі. Яны яшчэ не пасьпелі, як след стаць на ногі, а паглядзеце з кім толькі яны не сварацца і не б‘юцца?

Пакажэце мне хоць аднаго суседа з каторымбы Польшча не сварылася? Яна сварыцца і з намі беларусамі, літоўцамі, латышамі, украінцамі, чэхамі, немцамі, аўстрыйцамі і нават з ангельцамі.

Іншы раз, здаецца, што звар‘яцеўшая Польшча хутка абвясьціць вайну ўсяму сьвету. Ну што-ж — гэта можа быць. Голы разбою не баіцца. Мы ўжо знаем адных такіх ваякаў, — гэта расейскіх бальшавікоў. Даваяваліся да пустого канца бальшавікі, — хутка, вельмі хутка, даваюцца да таго-ж самага і іх саюзнікі палякі.

Абмылкова думаючы, што паўстаўшая новая Польшча, будзе разумнейшай ад старой — былой Польшчы, некаторыя беларусы, асабліва каталікі, паверылі паляком, што яны запраўды ідуць на Беларусь, як блізкія суседзі і добрыя браты толькі

для таго, каб памагчы нам вязваліцца з пад цяжкога уціску расейскіх бальшавікоў.

Збаламучаныя ксяндзамі, панамі і шляхтай, нашыя некатарыя каталікі шчыра паверылі і адозве Пілсудзкага да беларускага народу ад 22 красавіка 1919 г., у каторай ён заявіў, што польскае войска нясець з сабою для Беларусі вольнасьць, роўнасьць і братэрства.

Паглядзімо цяперака, якую вольнасьць, роўнасьць і братэрства запраўды прынясьлі нам польскія бандыты, аблыганцы, хабарнікі і грабіцелі. Яны прышлі на Беларусь, зусім не для таго, каб памагчы нам, як сваім суседзям, аслабаніцца ад бальшавікоў і самым стаць гаспадарамі на сваей зямельцы, а як раз наадварот, каб заваяваць нас і зрабіць нас польскім быдлам, якім яны маглі-бы распараджацца, як захочуць: біць, абіраць, гандляваць і катаваць нас.

Гаворачы у сваіх адозвах аб тым, што Беларусь мае право быць вольнаю і незалежнаю дзяржавай, якой яны быццам спрыяюць яны разам з тым разагналі у Менску Раду Беларускай Народнай Рэспублікі (наш Парлямэнт) і Раду Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі.

Разагнаўшы нашыя дзержаўныя установы і пасадзіўшы выбраннікаў беларускага народу у вастрогі, пачалі круціць — ашуківаць і аплячываць Беларусь, як толькі мага.

Абвясьціўшы на Беларусі, беларускую мову дзержаўнаю, яны тут-жа ня пазваляюць нічога пісаць па беларуску.

Абвясьціўшы, што на Беларусі павінны быць толькі нашыя родныя беларускія школы, яны за-раз-жа сталі закрываць усе беларускія, як пачатковыя, так і вышэйшыя школы, а вучыцялёў паразганялі і пасаджалі ў вастрогі, замест беларускіх школ пааткрывалі польскія, вучыцелям і вучыцельк амі паставілі асоб ня маючых ні адпаведнай адукацыі, ні сораму ні сумленьня. Гэта проста былыя свінапасы у Польшчы, а ў нас цяперака паважаныя паны вучыцелі, якія пазваляюць сабе біць ня толькі дзяцей, але і іх бацькоў.

Больш за ўсё асьцерагайцеся гэтых польскіх шпіонаў-палянізатараў. Знайце і ніколі не забывайце, што гэта найвялікшыя нашыя ворагі. Вы і не агледзіцеся, як яны сваімі патрыатычнымі польскімі песьнямі высьмейваньнем нашай роднай мовы і Бацькаўшчыны зусім скалечаць вашых дзяцей.

Ні за што не дапускайце і не прыймайце ў школы гэтых круцялёў, а сьмела састаўляйце прыгавары ад вёсак і пасылайце іх школьным інспэктаром, каб у вас былі адчынены толькі беларускія школы і каб навука ў іх выкладалася толькі па беларуску. Ня бойцеся за гэтыя прыгавары і за тое, што вы атказываецеся пасылаць дзяцей у польскія школы — вас у вастрог не пасадзяць.

Каб у канцы задушыць беларускі рух, гэтыя душагубцы пазакрывалі усе нашыя, як дзяржаўныя так і нацыанальныя установы, у тым ліку нават коопэратывы і некаторыя цэрквы.

Усіх лепшых нашых братоў — сьвядомых беларусоў — працуючых над вызваленьнем з пад чужацкага уціску нашай Бацькаўшчыны і нашага народу, лжыва назвалі бальшавікамі, якіх арыштоўвалі, мучылі і забівалі. Польскія паны і жандары, дахадзілі нават да таго кашмару, што арыштоўвалі і мучылі цэлыя вёскі, напрыклад вёска Малая Бераставіца Горадзенскага павету.

Нашымі лепшымі братамі перапоўнены ўсе вастрогі, арэштныя дамы і концэнтрацыйныя лагеры, як на Беларусі, так і ў Польшчы, дзе яны бязмерна гінуць ад холаду, голаду і пабояў. У адным толькі Кракаве больш як 20,000 сядзіць нашых братоў.

За што-ж запраўды арыштоўваюць, мучаюць і забіваюць нашых бацькоў, братоў, матак і сёстрау? Больш усяго толькі за тое, што яны бароняць сваю Бацькаўшчыну, сваю родную беларускую мову, сваю зямлю, сваю гаспадарку і разам з тым ня хочуць быць палякамі і панскімі хлопамі.

Папераарыштоўваўшы і паразганяўшы больш адважных і разумнейшых нашых людзей, палякі прыняліся без перашкоды за нашых гарапашнікаў селян, якіх проста замучылі рожнымі хабарамі, стойкамі і рэквізыцыямі. Бадай на Беларусі не знайдзецца ўжо ні аднаго гаспадара, каторага-б не аграбілі палякі. Ня толькі збожжам і адзежаю, але нават жывінаю. Не мала было і такіх выпадкаў, калі гэтыя разбойнікі забіралі апошнюю сьвінячку, апошнюю кароўку, апошняга воліка, апошняга коніка. Горкія сьлёзы абяздоленых бацькоў

і галодных дзяцей не маглі паварушыць панскага сэрца. Ён над імі сьмеяўся.

Яшчэ раз павінен адзначыць, што ніколі ня можна верыць палякам, што яны прышлі на Беларусь выціскаць расейскіх бальшавікоў.

Не праўда, лгуць як заўсёды, праклятыя. Калі-бы гэта было так, то яны бы не разганялі, а памагалі бы нашаму беларускаму Ураду, не зачынялі-б нашых школ, нашых устаноў і не арыштоўвалі-бы нашых людзей за іх добрую нацыянальную працу.

Не, яны прышлі, дзеля таго, каб апалячыць нас, накінуць на нас панскае ярмо і за тым прылучыць да іх праклятай Польшчы. Дзеля гэтай мэты, якы знарок не даюць свабодна дыхнуць нашаму народу сваім нацыянальна беларускім жыцьцём, а насільна ўганяюць у яго польскі дух і знарок, стараюцца давясьці яго да такой беднаты і занепаду, каб ён не меў магчымасьці сапраціўляцца злым польска-панскім мэтам.

Я ў вас запытаюся каму і чым памаглі палякі? — Нікому, ні чым!

Нават нешчасныя бежанцы не жалабяць панскага сэрца, калі на іх вачох прападаюць у зямлянках ад холаду і голаду.

Польскія ксяндзы, гэтыя служыцелі касьцёла, намаўляюць і нават застаўляюць, пад страхом кары, адлучэньня ад касьцёла, наш беларускі народ прылучацца да Польшчы, але яны маучаць і ня клічуць Польшчу і польскіх паноў памагчы мучаніку —

беларускаму народу, катораму не даюць нават тых прадуктаў і адзежы, якія безплатна прысылае для бедных Амэрыка. Пасьля гэтага само напрошваецца запытаньне: — каму і чаму служаць гэтыя духоўныя айцы?

Успомніце родненькія, чаго толькі не вытваралі польскія войска, паны і жандары над вамі і вашай старонкай, калі уцекалі летам 1920 году ад бальшавікоў, яны гвалцілі вашых матак, жанок, сёстраў і дачок, забіралі ад вас апошнюю жывёлу, апошні кавалак хлеба, апошнюю сарочку. Прымушалі вас у гарачую рабочую пару вясьці Бог ведае куды, вашых вяковых угнетацеляў — памешчыкаў і іх дабро. Вы і вашы змучаныя коні падалі на дарозе і умiралі, а паны хахаталі...

Уцекаючы з Беларусі ў сваю Польшчу, якая пачынаецца за рэкамі Бугам і Наравам, яны задаліся мэтаю зраўняць нашу старонку з зямлёю, з гэтае прычыны, яны ня толькі грабілі і забівалі нас, але і палілі. Так спалена імі дзесяткі нашых гарадоў і сотні вёсак са ўсім зжатым і звезеным у гумна збожжам.

Вёска Паўлавічы Ваўкавыскага павету Горадзенскай губ. была адразу падпалена больш чым у дзесяці мейсцах. Жыхары гэтай вёскі вярнуўшыся з Расеі бежанцы, і той хлеб, які спалілі палякі, гэта першы хлеб пота і крыві гэтых нясчасных людзей. Рускія і немцы аставілі ім хоць будынкі, палякі-ж і іх спалілі. Падумайце толькі як быць і як жыць пры такіх варунках?

Праз тры месяцы, палякі зноў вярнуліся на Беларусь. Здавалася, што іх сьвяты абавязак — памагчы як можна хутчэй, хаця-бы тым вёскам, якія спалены імі-жа, але дарма, ня толькі спадзеяцца, нават так думаць. Прышла зіма, а ў гэтых нешчасных мучанікаў няма ні хацінкі, ні скацінкі, ні хлеба, ні солі. Ляпей умерці, чым так жыць. Яны і мруць як мухі, ад голаду і холаду.

Селяне сьлёзна моляць і пасылаюць сотні дэпутатаў і прашэньняў каб ім далі хоць дзерава на будову, з нашых-жа беларускіх лясоў, але нашыя селянскія сьлёзы не жалабяць вяльможных паноў. Яны нашы лясы прадаюць, а нам нават на спаленую імі-ж хатку не даюць.

Амэрыка, знаючы няшчаснае палажэньне нашага народу, і каб памагчы яму, вельмі многа прысылае бесплатна: мукі, акрасы, малака, цукру, солі, адзежы і збожжа на засеў поля.

Гдзе-ж усё гэта? — У польскіх паноў і іх падпанкоў, каторыя ня толькі ўсё гэта ядуць, але і прадаюць і прапіваюць.

Калі хоць трошкі прызадумацца над тым, што вырабляюць у нас палякі, то кожнаму стане ясна, што уся іх праца кіруецца да таго, каб апалячыць або зусім зьніштожыць наш беларускі народ, на мейсца каторага прывязьці і пасадзіць сваіх палякоў, што яны ўжо і робяць.

Усіх мук і цярпеньняў нашага народу нельга ні пералічыць, ні расказаць, ні апісаць. Калі-б сабраць у вадно мейсца нашы сьлёзы і кроў, то з іх

утварылася-б вялікае мора, якое затапіла-б усю паганую Польшчу з яе агідными панамі і іх служкамі жандарамі.

Мера цярпеньня нашага народу перапоўнілася. Далей жыць пры такіх варунках і безпраў і не магчыма, і калі-б мы маўчалі, то на нашым мейсцы, каменьні загаварылі-б.

Гдже-ж выхад?...

— Застаецца адно: ўсей беларускай грамадзе, ўсяму народу, адважна і сьмела узяць у рукі сякеры, стрэльбы, вілы і косы і выганяць са свайго дому і са сваей зямлі праклятых чужынцаў, палякоў у Варшаву, а бальшавікоў у Маскву. Там іх бацькаўшчына і там іх мейсца!

У канцы сваей гутаркі я пазволю сабе зьвярнуцца з параю балючых слоў да тых нашых братоў-беларусаў, каторыя або ня ведаюць, што яны робяць, або яны сьвядома чорту душу прадалі.

Вельмі прыкра і балюча чуць і бачыць, што сярод нас беларусаў, ёсьць такія людзі, якія лезуць у паны і да паноў. Гэта тыя людзі, якіх запраўдныя палякі называюць „смердзонцэ полякі“.

Не гледзячы на тое, што палякі надта брыдка дражняць іх і сьмяюцца над імі, яны з прыемнасьцю слухаюць рожныя самахвальства і аблыганства польскіх паноў, і жандараў і лічаць для сябе вялікім гонарам быць блізка знаёмымі з гэтымі катамі нашага народу. Найбольш саромяюцца свайго народу і лезуць у дурні — выбачайце, ў палякі — гэта беларуская шляхта і рожныя упраўляюшчыя,

акономы, пісары, намесьнікі, гуральнікі, агроднікі, палясоўшчыкі панскіх маёнткаў і нават некатарыя каталікі мешчане. Яны у сваей большасьці, выйшлі з нашых беларускіх вёсак, мястэчак і гарадоў, радзіліся жывуць на нашай беларускай зямлі і нягледзячы на гэта; не адважываюцца прызнаць сябе беларусамі, адракаюцца і саромяюцца сваго брата-беларуса, сьмяюцца над вельмі пекнаю, роднаю моваю, якую называюць хамскаю, мужыцкаю і ва ўсю прадаюць нас паляком.

Што можа быць горш і паскудней гэтых людзей, гэтых панскіх прыхлебачоў, польскіх даношчыкаў прадаючых нас, нашу Бацькаўшчыну-Беларусь Польшчы?

Гэта глаўныя шпіоны, даношчыкі і агітатары польскай і панскай справы на Беларусі. Гэта яны раз'ежджаюць па нашых вёсках і местэчках, лаюць усё сваё, а хваляць чужое — польскае.

Нашых гэтых выpадкаў палякі называюць „смердзонцэ палякі“ мы-ж беларусы павінны назваць іх здраднікамі і юдамі прадаўцамі, якіх непавінен мінаваць наш беларускі суд.

Знайце, што сколькі бы польскія паны і іх падпанкі ня лгалі па ўсяму сьвету, што на Беларусі польскі народ, і што дзеля гэтага Беларусь трэба прылучыць да Польшчы, з гэтага нічога ня выйдзе. Ім цяпер ня вераць і іх ня слухаюць. Усе добра знаюць, што селян-палякоў у нас німа.

Польскае панаваньне ўжо ня доўгае. Хутка, вельмі хутка, польскае войска і польскія жандары

павінны ачысьціць Беларусь і выбраццца туды адкуль яны прыйшлі, — ў сваю Польшчу, за Буг і Нарэў.

На іх мейсца прыдзе наш Беларускі Ўрад са сваім народным, беларускім войскам. Тагды гэты народны Ўрад (правіцельство) Беларускай Народнай Рэспублікі, пазаве на Народны суд усіх тых, хто таргаваў, прадаваў і асьмейваў беларускі народ, яго мову і яго Бацькаўшчыну — родную старонку Беларусь.

1
1ба